
MARK MILLAR · JOHN ROMITA JR.
KICK-ASS 3®
JR JR + TP + DW
.BY COMICS
КОМІКСЫ ПА-БЕЛАРУСКУ
Мардабой 3
№8 (2013)
пераклад
і афармленне:
Козыраў Сяргей
ISSUE 8
THE GRAND FINALE!

# KICK-ASS 3

## ISSUE EIGHT

**MARK MILLAR**
WRITER AND COCREATOR

**JOHN ROMITA JR.**
PENCILS AND COCREATOR

**TOM PALMER**
INKS AND WASHES

**DEAN WHITE and MICHAEL KELLEHER**
COLORS

**CHRIS ELIOPOULOS**
LETTERS

**JENNIFER LEE**
EDITOR

**STEVE MCNIVEN**
VARIANT COVER
PENCILS AND INKS

**IVE SVORCINA**
VARIANT COVER
COLORS

## PREVIOUSLY:

Дэйв Лізеўскі заўсёды хацеў быць супергероем. Стаў ім, але потым сышоў. Цяпер ён вярнуўся дзеля апошняй місіі.

IDETTE WINECOOR: PRODUCTION

DAVID BOGART: SVP OF OPERATIONS & PROCUREMENT, PUBLISHING


HIT GIRL
Чаму ў мяне **дрэннае прадчуванне**?
Чаму мне здаецца, што ў выніку мой труп будзе валяцца ў канаве з **прабітым чэрапам**?
FUCK CRIME
BIG DADDY


СУСТРЭЧА МАФІІ Ў ДЖЭНАВЕЗЭ:
KLAKKLAPKLAPKLAPKLAPKLAP
KLAKKLAPKLAPKLAPKLAPKLAP
Дзякую, джэнтэльмены. Дзякую за тое, што **прыйшлі**.
Як нашыя справы звонку?
Усё спакойна. Супраць такога натоўпу яна не пойдзе. Гэта месца ахоўваецца лепш, чым **Форт Нокс**.


Якога..?
Яна пустая.
Відаць, хтосьці яе згубіў вышэй па рацэ.
Якога чалеса?
Аў!


Ты напэўна не можаш зразумець, чаму я пакінула цябе **ў жывых**, так?
Ну, справа ў тым, што для наступнай часткі майго плана мне патрэбна, каб ты аказаўся на даху. А ты цяжкаваты для **44-кілаграмовай дзяўчынкі**.
Н-навошта табе ўсе гэтыя **маленькія выбухоўкі**?
Даведаешся пазней.
А цяпер уставай на калені і ўзбірайся па вадасцёку, яйцатрас.



СКЛАД:
CAPUOZZO VODKA
Ваў, але ж ты мужык. Столькі вытрымаў збіцця, а яшчэ жывы. Я **вельмі ўражаны**.
Ты ўсё яшчэ не памятаеш іх **сапраўдныя імёны**? Бо наступным нашым крокам стане гульня ў **твар са шнарам** і адсячэнне паловы твайго азадка.
Эм, Полі. На самой справе ў нас тут праблема з пілой. Я прасіў іх купіць **бензапілу**, а яны далі мне **электрычную**. Я ня думаю, што провад дацягнецца.
Дык знайдзі **падаўжальнік**, раздзяры тваю маць! Мы павінны выклікаць **страх**, божа правы. Лічыш, пасля такога ён загаворыць?
Я амаль **закончыў**, Тод.
Яшчэ пара выбуховак і падрыхтоўка да майго з'яўлення будзе завершана.
Прабач, што так доўга, але вельмі важна атрымаць **псіхалагічную перавагу**.
Усё павінна быць зроблена **правільна**.


Сябры мае, я не з тых людзей, што любяць доўгія прамовы, таму буду казаць коратка...
Я заклікаў вас сюды, каб вы ўбачылі на ўласныя вочы пакаранне смерцю маленькай сучкі, якая адняла ў нас шмат часу і грошаў.
Спадзяюся, што яе забойства сёння ўвечары пакажа, што вашыя банды будуць квітнець пад маім пачаткам. Так, як ніколі раней.
Надмагільны камень адзначае месца, дзе мы пахаваем яе, як толькі мой пляменнік раскрышыць чэрап гэтай дрэні маім фірмовым залатым ледасекам.
Я хачу, каб гэтая заля стала яе апошнім прыстанкам, яе труп гніў пад намі ўвесь той час, як мы будзем святкаваць наша пагадненне.
MINDY McCREADY HIT-GIRL
Пачакай-ка, ты хочаш сказаць, што Забівашка зараз у гэтым будынку?
Пакуль не, але яна ўжо едзе сюды. Мае людзі запэўнілі мяне, што яна нейтралізавана наркотыкамі і звязана. У такім стане яна не будзе нам ніяк пагражаць.


Ты кажаш так, быццам мы ўжо згадзіліся на твой план па стварэнню супербанды, дон Джэнавезэ. Я лічыў, што мэта мерапрыемства была ў тым, каб усіх нас сабраць і абмеркаваць.
Куды ж без фармальнасцяў. Так, вы нядэнна папрацавалі, але мая сям'я займалася гэтым многія стагоддзі.
Сіцылійцы больш дасведчаныя ў гэтай справе, чым ніжэйшыя расы, і калі вы не выканаеце мае патрабаванні...
Ну, узгадайце, што Рымская імперыя рабіла з тымі, хто паўставаў на шляху прагрэса. Ці Старбакс, калі ў вас дрэнна з гісторыяй.
Мне гэта да задніцы. Я дадому.
Выйдзеш з пакоя, і твой сын памрэ, Пэдра.
Што?
Ён разам з астатнімі старэйшымі дзецьмі кожнай паважанай сям'і, кіраўнікамі якіх вы з'яўляецеся, былі схаваны далёка ад вас. З імі ўсё будзе ў парадку толькі ў тым выпадку, калі вы будзеце гуляць па правілах. Назавем гэта перастрахоўкай.
Чакай...
Дачакайся найлепшага моманту...



Мы тут не для таго, каб **галасаваць**. Гэта - добра спланаванае каранаванне.
Тваю маць!
П-п-прабачце, сэр. Яна **прымусіла** мяне зрабіць гэта...
Што за?


Бяжым адсюль! **Хутка**!
Нават не спрабуйце адчыніць **дзверы**...
...яны ўжо **зачыненыя**.


Божа. **У апошні раз** звяртаюся да цябе. Дапамажы мне з гэтай місіяй і, запомні маё слова, я заб'ю на ўсю гэтую хрэнь. Назаўжды!
CAPUOZZO VODKA
Святло...
Дым...
Шоў пачынаецца.
KLIK
SHIT!
CAPUOZZO VODKA
A?
CAPUOZZO VODKA


Спадары і спадарыні, вы добра ад'еліся...
Вы падсілкоўваліся **дабрабытам** Нью-Ёрка і яго **духам**. Аднак вашаму піру надыйшоў канец. З гэтага моманту...


..вы больш не адчуеце бяспеку.
CAPUOZZO VODKA
О мой бог.
CAPUOZZO VODKA


Мабыць хопіць ужо баяцца гэтага ўсратага **газа**? Ён вас **не** заб'е.
Гэта ўсяго толькі галюцынаген пад назвай **фенетыламін**. Я выкарыстала яго для таго, каб зрабіць усё яшчэ **страшней**.
Газ - чыста дзеля пацехі...
...а вось **куль** вам баяцца варта.
УЖЫЙ ПІЛУ! УЖЫЙ ГРОБАНУЮ ПІЛУ!


UNGH!
Я меў на ўвазе іншае, але, **відаць**, і гэта спрацавала.
Засталіся толькі **ты** і **я**, Роко. Як ты і **жадаў**.
А, прабач. Здаецца, гэта **ты** павінен быў трымаць свой знакаміты **залаты ледасек**?
Маленькая **ведзьма**...
Табе, напэўна, **страшна** так, што хочацца зрабіць купу ў портках, так? Ад босаў, якіх ты заклікаў, засталося толькі шмаццё. Галюцынаген **пагаршае** пачуцці ў сотні разоў.


Цікава, якой ты мяне бачыш? Я пужаю цябе? Я выглядаю, як монстар з **фільмаў жаху**?
Роко Джэнавезэ **нічога** не баіцца.
Гэта таму, што ты мяне **мала ведаеш**.


Я **зрабіў** гэта! Я **перамог** гэтых двух!
Я на нейкі момант **рэальна** задумаўся, што мне хана, але, як заўсёды кажа Забівашка: «Не важна, перавышае вораг цябе колькасцю...»
«...пакуль ты змагаешся за **справядлівасць**, ты будзеш перамагаць».
О божа, не...
Што такое, чувак? Што здарылася?
**Унізе** іх яшчэ больш!
Што?
Так, так, так.



Проста не магу паверыць у сваё шчасце.
Выглядаеш **стомленай**, Забівашка. Цяжкая была ночка?
Джыгантэ?



Чорт! Якая была **верагоднасць** такога?
Аказалася, што нейкі **заклапочаны грамадзянін** спужаўся, што Забівашка і Мардабой патрапяць у бяду, таму пазваніў у паліцыю.
Шкада, што на званок адказалі **дрэнныя копы**, такія як мы...
Нават ня думай штосьці ўчыніць. Я ведаю, што ты хуткая, але ў нас куль значна больш, чым у **цябе**, дзіцяці. Трымай рукі, каб я іх бачыў, інач згуляем у вестарн.
Ведаеш, сёння ты аказала мне неацэнную **паслугу**.
Ты забіла ўсіх **босаў Усходняга ўзбярэжжа**, а гэта значыць, што з'явілася шмат новых **вакансій**, і я буду вельмі шчаслівы іх заняць.
Падумай аб гэтым, калі будзеш валяцца на зямлі і губляць літры крыві.
Я пасаджу цябе ў **турму**, скончу з тваёй **кар'ерай** і, нарэшце, **зажыву** як гробаны **кароль**.


Канешне, усё павінна было закончыцца менавіта так. Заўсёды знойдзецца хеўра ці проста больш моцны хлопец, які, у выніку паб'е цябе.
Я ведаў аб гэтым з самага пачатку, як набыў касцюм. Але я не магу паверыць, што гэта адбылася зараз. Зараз, калі ўсё так блізка да завяршэння..
Усе тыя прыемныя рэчы, што засталіся ў пячоры, першыя ранкі і тім-апы. Усе тыя рэчы, што здаваліся такімі файнымі... цяпер здаюцца проста глупымі.
Выплёўваючы зубы, якія яны выбівалі сваімі ўдарамі за ўдарамі, я зненавідзеў гробаныя коміксы, з-за якіх я аказаўся тут.
Якая бессэнсоўная згуба жыцця. Пустое марнаванне дзяцінства...
...я сумаваў, што не нарадзіўся Чалавекам-павуком. Рабіў сабе браню Жалезнага чалавека з рознакаляровага картона. Таемна насіў касцюм Бэтмэна пад школьным, курвіска, пінжаком.
Усе тыя веды, якімі я валодаю, уся гэтая бэссэнсоўная інфа пра супергерояў.
Чаму мае бацькі заахвочвалі гэтым лайном? Што зрабілі для мяне коміксы, акрамя таго, што прывялі мяне сюды, на гэты ўсраты склад, а адсюль - прамой дарогай у магілу?



Менавіта чытанне **коміксаў** дапамагло табе перажыць **цяжкія часы**, Дэйв.
Што?
Твая маці мае рацыю, сынок. Яны напоўнілі твой розум не толькі **эскапізмам**. Гэтыя 22-старонкавыя часопісы зрабілі цябе **аптымістам**.
Супергероі кожны месяц нагадвалі табе, што ў якую б цяжкую ты не патрапіў калатнечу, заўсёды знойдзецца **адметнае рашэнне**, і што **здавацца** - не варыянт. Няўжо можа быць больш **каштоўны** ўрок для **дарослага жыцця**?
Не існуе **непераадольных праблем**. Нават **гэта** такой не з'яўляецца, Дэйв. Проста падумай: Што б зрабіў **Бэтмэн** у падобнай сітуацыі?
Ён мае рацыю.
Ізаляваныя **боты**, ізаляваныя **пальчаткі**...
Ізаляваны касцюм, а вакол мяне разлітыя самы **токаправодны напой** на **рынку**...
Цягніся да неба, прыяцель!


Чаго гэта ты ўсмехаешся, дрэнь?
Ня ведаю. Мабыць, я ўяўляю, як твае ручныя пярэваратні ў пагонах загалосяць ад болю, калі я праз некалькі секунд **заб'ю** іх усіх.
Ты што, зусім **ляснулася**?
Ой, ды суняміся ты. Як лічыш, хто вам пазваніў і заманіў тым самым ўсіх вас, абізгалаў, сюды?
**Брэхня**! Яна **камбінуе**. У нас сотні ствалоў, накіраваных на яе, а ў гэтай дрэні **нічога** няма.
Ага. Калі не ўлічваць **дэтанатар**.
Што?
Вам, рабяткі, трэба больш уважліва выбіраць месца для **паркоўкі**...
Тваю налева...
ICE


...і магчыма нават **ранена**. Гэта была вельмі доўгая і крывавая ночка...


BALL DESTRUCTOR!
...Калі прыйдзе такі дзень, калі я не змагу перахітрыць такога дурня як ты, я павешу маску на цвік.
Вооооось чоооооорт...
Прычым я не проста расплюшчыла твае **яйкі**. Я раздрабніла ўсю тваю **тазавую костку**, таму нават не спрабуй **упаўзці**.
Разумееш, ты як шасцярэнька ў машыне справядлівасці, капітан Вік Джыгантэ...
...і ў мяне ўся ноч на тое, каб **атрымаць** з гэтага карысць.


ШПІТАЛЬ:
З Тодам усё будзе ў парадку?
Жыць будзе.
Чула, вы раней пасля таго, як лавілі бандытаў, пакідалі маленькую візітоўку для копаў. Гэта міла.
Нажаль там адно слова было напісана з памылкай. Але я лічу, яны разумелі спасылку.
А яшчэ я чула, што ў Паўночнай часцы горада сёння было знойдзена 120 трупаў. Большасць з іх аказаліся крымінальнымі босамі Усходняга ўзбярэжжа. Лічу, мы абодва ведаем, хто за гэта адказны.
Гэта ніколі не закончыцца, Дэйв. Вы з Забівашкай занадта фанатычныя, і ў вас ніколі не атрымаецца павесіць касцюмы на цвік і пачаць жыць нармальным жыццём.
Як у тым эпізодзе ў другой часцы «Чалавека-павука», дзе ён гаворыць дзяўчыне, што на ім праклён, і яны ня змогуць быць разам, інач яго ворагі нашкодзяць ёй.
Бо ў нас зараз тое ж самае, так? Тая частка, дзе ты гаворыш пра тое, што на цябе, як на супергероі, ляжыць вялікая адказнасць, і яна важней твайго прыватнага жыцця?


Ты ашалела? У сапраўдным жыцці так не бывае. Толькі не тады, калі кахаеш па-сапраўднаму.
EMERGENCY ROOM
ON DUTY Val Barb Vette Barton Cindy Timpanello
1. Sarah Chalk 12.30 3:30
2. Todd Haynes 10:00
3. D. Lizewski 2:00 8:00
4. Steve Cappo 1:00
5. Greg Horan 2:30
* Meds delivered
3RD FL.
Я выбіраю цябе, Вэлеры. І ніяк па-іншаму.
Я ж сказаў табе, што гэта было ў апошні раз, а супергерой ніколі не парушыць свайго абяцання.
А як жа злыя хлопцы? Хто паклапаціцца аб іх?
Ты што, не глядзела навіны?
Усе злыя хлопцы памерлі.


Самае пацешнае ў тым, што я **не жартаваў**. Міндзі забіла кожнага крымінальнага боса, пакінуў банды раз'яднанымі і неарганізаванымі. Для аднаўленага паліцэйскага аддзела злавіць іх было не праблемай.
Айчым Міндзі, Маркус Уільямс, быў апраўданы і атрымаў павышэнне, стаўшы капітанам. Ён не стаў марнаваць час і пасадзіў усіх копаў-хабарнікаў, якія **гадамі** мучылі яго.
NY PD
POLICE DEPARTMENT
CITY OF NEW YORK
NY
Ён нават знайшоў былога паплечніка, старога Віка Джыгантэ, адзінага выжылага пасля **разні каля лодачнага доміка**.
Ніхто ня ведае, што **адбылася** той ноччу, але ён аказаўся ввельмі карысным, **назваўшы** ў дэпартаменце **шэраг імён**.
Я больш **не бачыў** Забівашку. Але я ведаў, што яна дзесьці там, бо прагледжваючы газеты, я бачыў артыкулы пра невытлумачальныя смерці **гангстэраў** у Лондане...
...**тэрарыстаў** у Парыжу, **кінднэпераў** у Рыму ці знойдзеную купку целаў цэлага **наркакартэля** ў Паўночнай Амерыцы.
Яна заўсёды любіла працаваць з **цені**, і нядзіўна, што яна вырашыла туды **вярнуцца**.
Я ведаю, што з ёй усё ў парадку, бо кожны **Дзень бацькі** яна пакідае кветкі на магіле таты, а на кожны **Дзень маці** яе мама атрымлівае велізарны букет **руж**.


Для мяне стала прыемным сюрпрызам тое, што маці Міндзі даволі добра трымалася, але я быў шакіраваны, калі даведаўся, што яе новай лепшай сяброўкай стала **Энджы Джэнавезэ**.
Але, мяркую, у іх шмат агульнага. **Няўдалыя шлюбы** і дзеці, якія любяць **пераапранацца ў латэкс**.
Ну а я? Я знайшоў сапраўдную працу, мы з Вэлеры перайшлі на новы ўзровень нашых стасункаў, я пераехаў у яе кватэру. Увогуле, мы гулялі шчаслівую пару.
Я адчуваў сябе **вінаватым** перад Тодам за тое, што пакінуў яго аднаго на нашай старой кватэры, якую аднаму яму было не пацягнуць...
...Але потым я ўспомніў пра адныя шыкоўныя ключы, якія раней былі ў мяне. Я сказаў, што гэта ўразіць яго **спелых самотных пасій**, якіх ён знаходзіў праз інтэрнэт...
**О божа**! Якая **шыкоўная кватэра**. Ты ж казаў, што падпрацоўваеш у **краме коміксаў**!
Я не падпрацоўваю, маленькая, я **працую** там.


Але не падумайце, што я разгубіў смагу да **прыгодаў**. Перыяд майго жыцця ў касцюме Мардабоя быў выдатны. Цяпер я бы проста не змог займацца працай, якая **ні на што не ўплывае**.
Сутнасць Бэтмэна не ў тым, як добра быць **міліянерам**. Мараль гэтага комікса я бачыў у тым, што трэба **дапамагаць іншым**. І я хацеў знайсці працу, якая хоць неяк **рэалізоўвала б** гэту мараль.
NEW YORK
Таму, калі Маркусу спатрэбіліся навабранцы для новага, ачышчанага **аддзялення паліцыі**, я быў першым, хто **запісаўся** туды.
Быць копам азначае тое, што я так сама буду кожную ноч патруляваць вуліцы, служыць **Нью-Ёрку** і абараняць яго...
...Я проста змяніў **адну ўніформу** на **іншую**.
12557


Але не думайце, што я перастаў быць заўзятарам супергерояў. **Кожную сераду** я наведваю краму коміксаў, а калі ў кіно выходзіць новы фільм, я іду на прэм'еру.
Проста мая роля **скончылася**. Аказалася, што Мардабой **выратаваў мяне**, як гэта звычайна робяць супергероі.
Snack Hut
-COMING SOON-
JUPITER'S LEGACY
SUPER CROOKS
Апроч таго, я не ўпэўнены, што мы зможам супрацьстаяць **новым** пагрозам, якія з'явіліся ў апошні час...
...рабятам, якія перакрочылі **гукавы бар'ер** ці псіху, які забіў **копаў у Японіі**, ці той жа хвалі **выкраданняў дзяцей знакамітасцяў**, якія ўсё часцей адбываюцца ў свеце.
Нічога не **стаіць на месцы**, і ўсё часцей з'яўляюцца новыя героі, здольныя **перамагчы іх**.
О, прабачце. Давайце я прытрымаю...
NOW SHOWING SUPERIOR 5
Мардабой нагадаў людзям, чаму нам **патрэбны** героі, аднак штосьці мне падказвае, што далей **будзе лепш**.


«Заўсёды думаў: чаму ж ніхто не рабіў гэтага да мяне?»
«Ну, усе гэтыя коміксы, фільмы, серыялы. Хоць адзін ляснуты адзіночка пашыў сабе касцюм?»
«Няўжо звыклае жыццё настолькі захапляльнае?»
«Няўжо школы і офісы такія файныя, што я адзіны, хто калі-небудзь марыў аб іншым?»
«Але добра. Прызнайцеся сабе».
«На **пэўным этапе** жыцця мы ўсе думалі стаць супергероямі».



HIGH
PUGLIESES
Крылы -
на ручное
кіраванне.
KOSHE
WOW!


MARK MILLAR & LEINIL YU
SUPER CROOKS
JUPITER'S LEGACY
HEROES
ДЭЙВ ЛІЗЕЎСКІ Ў РОЛІ МАРДАБОЯ
ДЭЙМАН МАККРЫДЗІ Ў РОЛІ ВЯЛІКАГА ТАТУЛІ
КРЫС ДЖЭНАВЕЗЭ Ў РОЛІ ЧЫРВОНАЙ СМУГІ
ТОД І МАРЦІ Ў РОЛІ МОРДАНАДЗІРАЦЕЛЯ І БАЙЦА


ПАЛКОЎНІК СТАРС І
АДВЕЧНАЯ СПРАВЯДЛІВАСЦЬ
ЭЙЗЕНХАЎЭР
У РОЛІ САМОГА СЯБЕ
2176
ДЖОНІ, РАЛЬФІ І РОКО ДЖЭНАВЕЗЭ
THE ART OF WAR
І МІНДЗІ МАККРЫДЗІ Ў РОЛІ ЗАБІВАШКІ


Дзённік Пола МакК'ю:
Яны АБПЛЯВАЛІ маю куртку, але я прамаўчаў, іначай было б яшчэ ГОРШ.
Джэйсан Кортаў усю дарогу да дома шоў наперадзе мяне і казаў жудасныя рэчы пра бацьку і яго бойф рэндзе, а я толькі ўсмяхаўся і рабіў выгляд, што кожнае яго слова ня КРЫЎДЗІЦЬ мяне.
Я паспеў памыць куртку перад тым, як Мама прыйшла дадому, бо я не хацеў яе РАСЧАРАВАЦЬ. Яна і так увесь час на нервах, бо ў нас зараз дрэнна З ГРАШАМІ.
Ёй яшчэ расказаў пра мае праблемы ў школе не хапала.
Я ТАК ненавіджу Джэймсана Кортава. Я напісаў верш пра тое, як больна ён мне робіць, але ў гэты раз лепш сябе адчуваць я не стаў.
Я спрабаваў выканаць ПРАКТЫКАВАННІ ПА РАЗВІЦЦЮ ПАЗНАВАЛЬНЫХ ПАВОДЗІН, але яны ўжо не дапамагалі, таму я папрасіў школьнага псіхолага даслаць мне НОВЫ РЭЖЫМ.
Я баяўся заснуць. Раптам не праснуся? Ці можа здарыцца чарговы прыступ у ДВАНАЦЦАЦІГАДОВАГА?
Ці напружаны я з-за праблемаў у ШКОЛЕ, ці гэтыя болі ў грудзі з'яўляюцца сімптомамі САРДЭЧНА-СУДЗІНКАВАЙ НЕСТАБІЛЬНАСЦІ?
Хоць бы РАЗ я лёг у ложак, думаючы аб чым-небудзь добрым. Хоць бы раз я не РЫДАЎ у СНЕ.


Добра, малец. Час з цябе зрабіць мужыка...


...трэніроўкі пачнуцца **заўтра** ў дзевяць раніцы.






# NEW 52
# ЦУДА-ЖАНЧЫНА.
(DC, 2011)

**ужо даступны на www.patreon.com/comicsby**

**Azzarello, Chiang.** Богі ходзяць сярод нас. Толькі адна жанчына адважылася б абараняць чалавецтва ад гневу такіх дзіўных і магутных сілаў. Але яна адна з нас ці адна з іх? Новая эра пачынаецца для амазонскай прынцэсы Цуда-Жанчыны пад аўтарствам Брайана Азарэла і Кліфа Чанга.









# ПАДТРЫМАЙ МЯНЕ НА PATREON

**www.patreon.com/comicsby**

Твая падтрымка дапаможа мне праводзіць больш часу за перакладамі коміксаў, каб у цябе было яшчэ больш літаратуры на беларускай мове.

## Выбяры адзін з варыянтаў падтрымкі на patreon:

Афіцыйны патрон

**3 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

Афіцыйны патрон атрымлівае спасылку на рэліз пераклада **на 1 месяц раней**, чым падпісчыкі ў сацыяльных сетках.

- На 1 месяц раней, чым усе

Патрон з падпіскай прэміўм

**5 $**

ЗА МЕСЯЦ

**ДАЛУЧЫЦЦА**

**Патрон з падпіскай прэміўм** атрымлівае спасылку на рэліз новых серый **на 1 год раней**, чым падпісчыкі сацыяльных сетак.

Сярод такіх новых серый мы плануем коміксы «Цуда-жанчына», «Дарт Вэйдэр», «Чорны молат», «Дэпартамент праўды» і інш. Спачатку - па 2 выпускі ў месяц, а далей - у залежнасці ад колькасці патронаў з падпіскай прэміўм.

Так сама атрымлівае ўсё тое, што і **Афіцыйныя патроны**.

- На 1 год раней, чым усе
- На 1 месяц раней, чым усе
- Дотык да новых серый коміксаў

## Мае мэты:

**100 патронаў** -
я найму перакладчыкаў, каб было яшчэ больш перакладаў на беларускую мову.

**500 патронаў** -
я ствару выдавецтва, мэтай якога будзе - электронная публікацыя арыгінальных коміксаў і кніжак на беларускай мове.

**1000 патронаў** -
выдавецтва пачне друкаваць папяровыя кніжкі і коміксы з творамі на беларускай мове, якія можна будзе набыць у беларускіх крамах.